# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 17 (2263) 23 красавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).




## І. ВЯСНУ ПАГУКАЛІ

**Праз стагоддзі, праз забыццё і забароны дайшоў да нас старажытны язычніцкі абрад, першае па часе веснавое народнае свята — Гуканне вясны. У асобных месцах Беларусі Гуканне вясны пачыналася 1 сакавіка па старому стылю (на Хрысціянскае свята Аўдакеі), а ўсюды — з 25 сакавіка на благавешчанне. Удзельнікі абраду выходзілі звычайна на высокае месца (горку, бераг ракі, возера, куды звычайна збіралася моладзь), раскладалі вогнішчы (на Магілёўшчыне палілі ўсякае смецце — ачышчалі зямлю, на Гомельшчыне запаленае кола на плыце пускалі па рацэ — водгалас культу сонца), спявалі вяснянкі, вадзілі карагоды, якія выконвалі магічную функцыю («Дзе карагод ходзіць, там жыта родзіць»). У свята Гукання вясны пранік і культ раслінасці: ушанаванне бярозы (звычай кідаць на бярозу кастрыцу і іншае).**

**НА ЗДЫМКУ: любімая забава дзятвы на вясновым свяце — папяровыя птушкі.**



*ПАЛЕМІКА*

## 1939: ГЭТА БЫЛО ВЫЗВАЛЕННЕ

Памяць чалавечая часта прымушае забыць дрэннае і захаваць добрае. Але ёсць дрэннае, якое забыць немагчыма, ды і не маем права мы яго забываць, хаця б для таго, каб нашы дзеці і ўнукі ведалі праўду і не дапускалі зла.

Я гляджу на 1939 год вачыма людзей свайго пакалення, тых, каму было тады 9—10 гадоў. Дзіцячая памяць умясціла ў сабе ўсе падзеі, якія адбываліся на Пружаншчыне.

Для нашай вёскі, як і большасці вёсак Заходняй Беларусі, падзеі 1939 года прынеслі вялікія перамены і не толькі таму, што мы, беззямельныя сяляне, з вялікімі цяжкасцямі зводзілі канцы з канцамі, але і таму, што ў свядомасці людзей была надзея на сацыяльную справядлівасць. Людзі паверылі, што сапраўды прыйшла тая ўлада, за якую яны змагаліся. Таму бяру на сябе смеласць сцвярджаць: паход Чырвонай Арміі вылiўся ў трыумфальны вызваленчы марш.

Не буду закранаць публікацыі М. Іванова «Вызваленне ці няволя?» і рабіць нейкі аналіз, хаця многае ў яго несправядліва.

М. Іваноў — гісторык, і ў яго свой погляд на падзеі. Што ж, няхай будзе на сумленні кожнага з нас усё тое, пра што мы пішам. Аб некаторых яго выказваннях я гавару ніжэй. Але як бы хто цяпер ні мудрыў, а ў верасні 1939 года Чырвоную Армію сустракалі як вызваліцельніцу. Энтузіязм народа Заходняй Беларусі цяжка апісаць словамі.

Ды і як не радавацца, калі беззямельныя сяляне атрымалі надзелы зямлі. А што было галоўным у селяніна? Вядома, зямля: яна ж карміла і апранала яго сям'ю.

Уся зямля і жывёла, што належалі польскім памешчыкам, былі раздадзены бядняцкім сем'ям. Пры ўсіх нападках на Савецкую ўладу. пры ўсёй крытыцы дапушчаных ёю перакосаў і пралікаў трэба прызнаць: менавіта гэтая ўлада аддала лясы, землі, фабрыкі, банкі ў рукі працоўных, адкрыліся тысячы школ, бальніц, аптэк і г. д. Народ стаў дыхаць вальней.

У нашы дні мінулае — і аддаленае, і зусім нядаўняе — падвяргаецца жорсткай крытыцы, і трэба аддаць належнае, што крытыка часта бывае справядлівай. На жаль, ёсць людзі, якія не задумваюцца, што такое мера аб'ектыўнасці, і імкнуцца выліць больш бруду і ўтаіць праўду.

Але ж нельга сёння не бачыць, чым была і чым стала Заходняя Беларусь. Не модна сёння гаварыць аб дасягненнях, аднак давайце ўсё ж зыходзіць з той гісторыі, якая была ў нас.

У трыццатых гадах заходнія тэрыторыі былі, напэўна, самым адсталым куткам Еўропы. Чахлая прамысловасць, балоты, павальная галеча.

А да перабудовы, нават з папраўкай на агульны эканамічны крызіс у краіне, у нас быў адзін з самых высокіх узроўняў жыцця у параўнан


**(Заканчэнне на 5-й стар.).**


**Плошча Незалежнасці ў сталіцы незалежнай Беларусі Мінска стала тым месцам, куды нясуць людзі свой боль і гнеў, прыходзяць з сваімі патрабаваннямі і крыўдамі. Пры ўсіх адрозненнях патрабаванняў сярод іх ёсць адно агульнае абавязковае, якое ўключаюць амаль што ўсе дэманстранты і пратэстуючыя: у адстаўку ўрад Вячаслава Кебіча.**

**Вось і салігорскія шахцёры, якія бастуюць ужо ладны час, сярод іншых выставілі і гэта патрабаванне. Але галоўнае, чаго яны дамагаюцца, — павышэння заработнай платы, атрымання ў той ці іншай форме валюты і персаніфікацыі пенсій. Пакуль што гарнякі, адміністрацыя шахт і ўрад да згоды не дайшлі. Кожны стаіць на сваім. Як мы паведамлялі, з 31 сакавіка група шахцёраў аб'явіла бестэрміновую галадоўку.**

**Відаць, каб быў лепш пачуты іх голас, шахцёры Салігорска з падземных штольняў, дзе яны праводзілі галадоўку, перабраліся на плошчу Незалежнасці, што перад Домам урада. Мабыць цяпер яны прымусяць звярнуць на сябе ўвагу тых, хто пры ўладзе!**

**Фота В. СТАВЕРА.**



ДЫПЛАМАТЫЧНАЕ ПРЫЗНАННЕ



13 красавіка Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Германіі ў Беларусі Райнхарт Краўс уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. А назаўтра, 14 красавіка, С. Шушкевіч прымаў вярыцельныя граматы з рук Кована Олівера Фентана Хоўга, які прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Аўстраліі ў Рэспубліцы Беларусь.

На чарзе—прыбыццё паслоў з іншых дзяржаў.

НА ЗДЫМКУ: Старшыні Вярхоўнага Савета РБ С. ШУШКЕВІЧУ ўручае вярыцельныя граматы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ФРГ у Беларусі Райнхарт КРАЎС.

Рэспубліка Беларусь павінна адчуваць лёгкае галавакружэнне ад шырокага прызнання ў свеце яе незалежнасці. Амаль штодня ў Мінск прыбываюць афіцыйныя прадстаўнікі розных дзяржаўных ведамстваў, міжнародных арганізацый. Апошнім часам у сталіцу зачасцілі паслы.

ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ПАРТЫЯ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ

Адбыўся ўстаноўчы з'езд Партыі народнай згоды Беларусі, на якім прыняты статут ПНЗ, палітычная дэкларацыя, праграмныя прынцыпы па ажыццяўленню эканамічных пераўтварэнняў, рэзалюцыя аб дэмакратызацыі грамадска-палітычнага ладу рэспублікі, заява аб міжнацыянальных адносінах у РБ.

Партыя народнай згоды лічыць сябе палітычнай арганізацыяй парламенцкага тыпу і будуе сваю дзейнасць на прынцыпах Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. На з'ездзе выстаўлена прапанова пачаць кансультацыі і перагаворы паміж парламенцкімі фракцыямі, партыямі, прафесіянальнымі і грамадскімі аб'яднаннямі з мэтай выхаду рэспублікі з крызісу, стварыць прававы механізм, што забяспечвае раўнапраўе усіх народаў, якія жывуць на тэрыторыі РБ.

З'езд выбраў савет ПНЗ, яе кантрольную камісію, старшыню партыі. Ім стаў народны дэпутат Беларусі Г. Карпенка.

АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

## ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗАКОНЧАНЫ

13 красавіка ініцыятыўная група перадала ў Цэнтральную выбарчую камісію падпісаныя лісты ў падтрымку рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета 1 выбарах новага парламента на шматпартыйнай аснове.

1 200 чалавек займаліся зборам подпісаў. Да 14 красавіка, згодна з законам, неабходна было сабраць 350 тысяч подпісаў — 5 працэнтаў усіх выбаршчыкаў Беларусі. Работа вялася ў 88 гарадах Беларусі, у вёсках і мястэчках. За сем тыдняў сабрана 446 061 подпіс грамадзян рэспублікі.

На працягу аднаго месяца з дня перадачы ў Цэнтральную выбарчую камісію падпісныя лісты будуць знаходзіцца на праверцы, пасля чаго павінны быць перададзены ў Вярхоўны Савет, які ў адпаведнасці з законам павінен прызначыць дату правядзення рэферэндуму.

Найбольш актыўна выказаліся за правядзенне рэферэндуму прадстаўнікі інтэлігенцыі.

СВАБОДА СЛОВА

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ І ПРЭСА

У апошні час Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь апалчыўся на журналістаў. Ці звязана гэта з вядомым праектам пастановы Вярхоўнага Савета Яўгена Цумарава — пакуль невядома. 15 красавіка раніцай у «Розным» прагучалі цэлыя тры выступленні, прысвечаныя сродкам масавай інфармацыі. Дасталася многім, у тым ліку і галоўнаму рэдактару ўрадавай газеты «Рэспубліка» Мікалаю Кярногу.

Аднак самая арыгінальная прапанова прагучала з вуснаў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Зінаіды Пяньковай. Яна выказала ідэю правядзення атэстацыі журналістаў у парламенцкіх камісіях.

ЗЛАЧЫНСТВЫ БАЛЬШАВІКОЎ

## НОВЫ НЮРНБЕРГ?

Правесці Міжнародны трыбунал па фактах бальшавіцкіх злачынстваў супраць чалавецтва і чалавечнасці заклікалі парламенцкая апазіцыя БНФ, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, шэраг іншых партый і грамадскіх дзеячаў рэспублікі. У сваім звароце ў Вярхоўны Савет РБ, да грамадзян Беларусі, да ўсіх народаў яны заклікалі прызнаць гэтыя злачынствы, пачынаючы з перавароту 1917 года, — не маючымі тэрміну даўнасці. Каб не дапусціць паўтарэння злавесных старонак мінулага, прапаноўваецца прыраўняць прапаганду вучэння аб дыктатуры пралетарыяту да прапаганды вайны, расавай і нацыянальнай нянавісці; прыняць закон аб забароне арганізацый, дзейнасць якіх базіруецца на камуністычнай ідэалогіі; перадаць у Міжнародны трыбунал спіс асоб, у дзеяннях якіх маецца састаў злачынства, астатнім жа — застаецца права на пакаянне хаця б сам-насам.

У звароце падкрэсліваецца, што мэта трыбунала — не помства, не новыя ахвяры, не набіццё каменнямі грэшнікаў, а падвядзенне рысы, перш за ўсё, юрыдычнай пад злачынствамі бальшавізму.

*«Станіслаў Шушкевіч зусім адэкватна выказвае інтарэсы і палітыку наменклатурнай большасці, на якую і абапіраецца ў Вярхоўным Савеце. Нядаўна ён гэта вельмі выразна прадэманстраваў, прапанаваўшы на пасаду свайго першага намесніка В. Кузняцова — былога кадравага наменклатурна-партыйнага кіраўніка, цяпер старшыні Савецкага райсавета Мінска, дарэчы, нягледзячы на раскрыццё махінацый з кватэрамі ў Савецкім райвыканкоме, расследаванне якіх працягваецца. Натуральна, былыя партыйныя кіраўнікі, былыя камсамольцы і іншыя дэпутаты большасці ў Вярхоўным Савеце дружна падтрымалі гэтую кандыдатуру. Але галоўнае не ў гэтым. Станіслаў Шушкевіч заўсёды падтрымлівае большасць (няважна якую). Галоўнае ў тым, што ў яго палітычных паводзінах, гэтак жа як і ў наменклатуры, адсутнічае разуменне нацыянальных інтарэсаў беларускай дзяржавы. Здаецца адна пазіцыя за другой, працягваецца свядомая капітуляцыя перад авантурнай палітыкай расійскага кіраўніцтва, не выкарыстоўваюцца палітычныя і эканамічныя магчымасці Беларусі, заключающа пагадненні на шкоду рэспубліцы. Напрыклад, пагадненне ад 27 студзеня гэтага года з Б. Ельцыным аб бясплатным транзіце праз Беларусь (гэта ў той час, калі Расія шантажыруе нас зрывам паставак нафты і павышэннем цэн на сыравіну), аб «рублёвай зоне» (гэта ў той час, калі ўсе дзяржавы вакол нас заявілі аб падрыхтоўцы да ўвядзення сваіх грошай, а беларускі народ адкрыта грабяць пустымі рублямі, што друкуюцца ў Маскве) і г. д. Я ўжо не гавару аб капітулянцкай пазіцыі ў пытаннях арміі і абароны Беларусі.*

*27 і 28 сакавіка, калі грымнуў чарговы гром, на гэты раз з Украіны (праграма Краўчука аб выхадзе Украіны з рублёвай зоны), як заўсёды ў такіх выпадках, адбылося закрытае пасяджэнне Вярхоўнага Савета. Абмяркоўвалі фінансавыя пытанні. Але і на гэты раз дэпутаты наменклатуры і іх спадарожнікі не зразумелі, што трэба неадкладна страхаваць Беларусь ад няшчасця — пачаць падрыхтоўку да ўвядзення нацыянальнай валюты (аб чым апазіцыя БНФ гаворыць ужо другі год). І асабліва шчыравалі супраць гэтага Станіслаў Шушкевіч. Ствараецца ўражанне, што аграбленыя і абрабаваныя, яны, абураючыся гэтым грабяжом, што адбываецца, у адданым іравенні, на каленях, з захапленнем гатовыя паўзці ў пастку галоднай Расіі і загінуць разам з ёю пад руінамі імперскай турмы».*

*(З інтэрв'ю З. ПАЗЬНЯКА газеце «Знамя юности»).*

ПЕРАЙМЕНАВАННІ

## САПОЦКІН НАПЕРАДЗЕ

Мода мяняць усё і ўся, што з'явілася ў апошнія гады, не мінула і пагранічны пасёлак Сапоцкін, што непадалёку ад Гродна. На сесіі пасялковага Савета большасць народных дэпутатаў прагаласавалі за перайменаванне вуліцы Леніна. Цяпер яна носіць імя папы Рымскага Іаана Паўла II. За новую назву выказаліся практычна ўсе жыхары Сапоцкіна. Яны ўручылі мясцовым уладам спецыяльны зварот са сваімі подпісамі.

З улікам пажаданняў насельніцтва народныя дэпутаты прынялі рашэнне аб пераглядзе назваў і іншых вуліц. Былая Кастрычніцкая атрымала імя польскага генерала Вільчынскага, які быў расстраляны тут і пахаваны на мясцовых могілках у верасні 1939 года. Вуліца 1 Мая цяпер называецца Жнівеньскай. Вуліцы П. Сяўко, названай ў гонар загінуўшага ў 1947 годзе старшыні мясцовага райвыканкома, вярнулі даваеннае імя — Тэалінская. Шыльды з новымі назвамі ўжо з'явіліся на тутэйшых дамах.

Здаецца, па тэмпах перайменаванняў вуліц Сапоцкін «абставіў» сталіцу.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Каб атрымаць работу ў Мінску, трэба мець права на пражыванне ў горадзе, гэта значыць мець у пашпарце штамп аб сталічнай прапісцы. А за прапіску цяпер трэба заплаціць 35 тысяч рублёў замест ранейшых 14 тысяч 800.

● Рэзка падаражала сельскагаспадарчая тэхніка. Кошт звычайнай сеялкі павысіўся з 2 тысяч 188 рублёў да 32 тысяч 84, плуг каштуе 13 тысяч 400 замест ранейшых 300 рублёў. Трактары падаражалі ў 8—28 разоў, аўтамабілі — у 8—24 разы.

● У Мінскай вобласці 74,4 працэнта школ вядуць выкладанне на беларускай мове, у Віцебскай — 67,2, у Магілёўскай — 65,4 працэнта. У Мінску з 207 школ 118 вядуць выкладанне на беларускай і рускай мовах, 89 — на рускай мове.

● У 1991 годзе ў Беларусі выраблена 45 мільёнаў пар абутку. Вытворчасць абутку на душу насельніцтва складае 4,4 пары. Аднак набыць чаравікі ці боты — праблема.

● У 1990 годзе на пастаяннае месца жыхарства з Беларусі выехала 34 тысячы 100 чалавек. У асноўным гэта асобы яўрэйскай нацыянальнасці.

АРЭНДНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА



Не зведае недахопу ў кліентах праектна-тэхналагічнае бюро сістэм аўтаматызаванага праектавання, што функцыяніруе ў Брэсце. Гэта арэнднае прадпрыемства вядома ў многіх рэгіёнах былога Саюза. Цесную сувязь з ім падтрымліваюць праектныя і навуковыя інстытуты Масквы, Санкт-Пецярбурга, Чэлябінска, Уладзівастока, Мурманска і іншых гарадоў. Пастаўляе яно свае распрацоўкі і ў Германію.

Укаранёны ў бюро адзіны аўтаматызаваны тэхналагічны працэс гарантуе высокую эфектыўнасць і якасць праектнай вытворчасці.

НА ЗДЫМКУ: у машыннай зале ЭВМ інжынеры бюро Ігар ДУБІНА і Віктар КАЧАН.

## БІЗНЕСТУРЫЗМ

# АД КАМАРОЎСКАГА ДА ВАРШАЎСКАГА РЫНКУ

Чарговы скандал на Брэсцкай таможні ўзнік, калі высветлілася: група школьнікаў едзе ў Польшчу зусім не на экскурсію, а на рынак.

Ваяжы за польскімі таварамі атрымалі нават паўафіцыйную назву — бізнестурызм. Што гэта за з'ява? Прааналізаваць яе спрабуем разам з начальнікам аддзела ўпраўлення барацьбы з эканамічнай злачыннасцю МУС Рэспублікі Беларусь Міхаілам Сазонавым і старшым оперупаўнаважаным гэтай службы Юрыем Малумавым.

З'явілася праслойка моладзі, якая мае вольны час і траціць яго на тое, каб сумленна зарабіць. Для гэтай мэты як нельга лепш падыходзіць бізнестурызм. Наш бедны спажывецкі рынак не дазваляе маладому хлопцу прыстойна апрануцца. Выезд у Польшчу дапамагае набыць патрэбную рэч і для сябе, і для сям'і. Таму пераважная частка бізнестурыстаў — гэта моладзь і хатнія гаспадыні. Хіба можна за гэта называць іх злачынным элементам? У іх дзеяннях няма і не можа быць саставу злачынства, лічыць Міхаіл Сазонаў. Насыціцца рынак, і не будзе бізнестурызму. Але ёсць людзі, якія ператвараюць яго ў сродак хуткага ўзбагачэння. Не, яны самі не цягаюць цяжкія валізкі, не прыніжаюць сябе ў чэргах, не даюць хабар таможнікам. Радавы грамадзянін вязе тавар, які ён зусім легальна купіў за талоны, купоны і рублі. Гэта не ганебна. Але іншая справа, калі гэты тавар здабываецца нелегальна праз чыноўнікаў, якія гэты тавар размяркоўваюць, гандлёвых работнікаў, пераплату, усемагчымыя парушэнні правілаў гандлю. Гэта ўжо крымінал, але ён у бізнестурызме складае працэнтаў 20.

Пераважная большасць едзе ў Польшчу не для таго, каб любавацца яе прыгажосцю, а нешта купіць. (Дарэчы, у пачатку перабудовы быў зваротны працэс: палякі ездзілі з такой мэтай да нас). Гэта нармальнае жаданне. Толькі невялікая жменька нягоднікаў нажываецца на чужой бядзе. Але з імі можна змагацца, а не закрываць граніцу.

Дарэчы, не выдам асаблівага сакрэту, паведаміўшы, што аддзел Міхаіла Сазонава атрымаў зверху «каштоўнае ўказанне» знайсці абгрунтаванне для спынення беспарадкаў на Варшаўскім мосце і прыкрыць бізнестурызм. Міхаіл і Юрый падумалі і прапанавалі зусім іншы варыянт. Сэнс яго заключаецца ў тым, каб на дзяржаўным ці камерцыйным узроўні арганізаваць фірму, сутнасць работы якой зводзілася б да наступнага: Беларусь заключае з Польшчай спецыяльнае пагадненне, у адпаведнасці з якім нашы грамадзяне, якія жадаюць нешта набыць у Польшчы і якія дома купілі для дробных здзелак нашы тавары, што карыстаюцца попытам у Польшчы, прыходзяць у гэтую фірму. У ёй магазін, які па цане, роўнай тром чвэрцям кошту тавару на рынках Польшчы, прымае пэўную рэч у грамадзяніна і дае яму вексель на гэтую суму. У Польшчу наш грамадзянін едзе ўжо не як мяшэчнік, абвешаны цяжкімі валізкамі, а як чалавек. Ён не баіцца таможніка, які можа яго абабраць. У яго няма ні тавару, ні злотых. У яго вексель, з якім ён прыходзіць да польскага контрагента, атрымлівае на яго злотыя і купляе на іх усё, што яму хочацца.




А той тавар, які турыст пакінуў у магазіне прадпрыемства, ідзе ў Польшчу. Няхай палякі яго збываюць на сваім рынку. Чвэрць кошту тавару — гэта плата за паслугі. Ёсць і другі варыянт: мы скупляем увесь тавар, які людзі збіраюцца везці ў Польшчу, і пускаем яго зноў на беларускі рынак. А палякам дамо тое, што ў іх у дэфіцыце, напрыклад, электравырабы. Гэта ўрады дзвюх дзяржаў у стане вырашыць. Так праблемы, народжаныя бізнестурызмам, можна звесці да нуля. І інжынеру, школьніку ці студэнту не трэба будзе на варшаўскай таўкучцы гандляваць бюстгальтарамі.

У якой жа сферы бізнесу можа знайсці сваё прымяненне малады чалавек? Бізнес, якія цяпер ёсць у рэспубліцы, — гэта сістэма «купі-прадай», гэта значыць пасрэдніцтва. А што яшчэ можа зрабіць сёння бізнесмен, калі вытворчасць скарачаецца, рынак пусты? Для маладых людзей існуюць віды прадпрымальніцтва ў сферы паслуг. Яны могуць быць афіцыянтамі, разносчыкамі, гандлярамі газет. Але сфера паслуг у нас не развіваецца. Урад яе не стымулюе ні падатковай палітыкай, ні льготамі. Хіба можа сёння бізнесмен адкрыць кафэ? Для таго каб узяць у арэнду памяшканне, яму давядзецца заплаціць дзяржчыноўніку (былому партакрату, які з поспехам перасеў у цёплае крэсла) такі хабар, што ў вачах пацямнее. Дзе ён возьме абсталяванне? У брокеры без эканамічных ведаў і жыццёвага вопыту не пойдзеш, займацца менеджментам не ўдасца, таму што сур'ёзна ніхто да цябе не паставіцца. Даставаць абсталяванне? Трэба мець справу са структурамі дзяржзабеспячэння. Там таксама патрабуецца даць хабар. На біржу пайсці? Для гэтага трэба ўзяць крэдыт у банку. А хто дасць яго без паручыцельства? Але ўявім, што ён прайшоў праз усё гэта. І атрымаў. Цяпер паўстае пытанне, дзе ўзяць сыравіну? Вось і замкнуўся круг. Давайце ўспомнім нашу нядаўнюю гісторыю. Калі ў нас быў прыняты Закон аб кааператывах, большасць з іх узнікла ў сферы паслуг. Дзе цяпер яны?

З якімі праблемамі сутыкнуліся маладыя прадпрымальнікі гэтай сферы? Кааператар павінен быў купляць мяса толькі на рынку па вар'яцкіх цэнах, але яго тады можна было купіць і ў дзяржгандлі, даўшы хабар загадчыку магазіна. Мяса з прылаўкаў знікла, як, зрэшты, і цукар. І ўвесь бізнес перайшоў у сферу «купі-прадай», пасрэдніцкую. Купіць сёння электрабрытву, значыць ведаць, што яна ўжо была перапрададзена разоў дзесяць і абрасла такім адвольна дабаўленым коштам, што і падумаць страшна. У фірмах, што засталіся, сабраліся такія ваўкі, якія прайшлі ўсе дарогі барацьбы за выжыванне, што з імі малады ніколі не адважыцца канкурыраваць. Яны з дзяржчыноўнікамі ўжо не сутыкаюцца, атрымліваюць прыбытак без іх. А спажывец вымушаны купляць, нават не ўяўляючы сабе, колькі на гэтым зароблена і накручана. Калі ў краіне быў камп'ютэрны бум, сфера прадпрымальніцтва для маладых заставалася яшчэ адкрытай. Але ён мінуў, і ўсе нішы на сённяшні дзень аказаліся занятымі. Засталася толькі адна — бізнестурызм. І мы яго маем у такой дзікай форме, якім ён і з'яўляецца.

**Уладзімір ЛЕВІН,**
**БЕЛТА.**

---

## ГЕРОЙ НАШАГА ЧАСУ

# БАКАЛ ВІСКІ НА ЎЛАСНАЙ ВІЛЕ Ў ФЛАРЫДЗЕ, або ЗА ЧЫМ ГОНЯЦЦА ЮНЫЯ ДЗЯЛКІ

Паўтара года назад прадавец Дзіма звольніўся па ўласнаму жаданню з магазіна. Ён тады не ўяўляў, што не зможа ўладкавацца па спецыяльнасці. У торгах, ГУМе, ЦУМе, гарадскім бюро па працаўладкаванні атрымліваў адзін і той жа адказ: «Прадаўцы нам не патрэбны...» Заставалася спадзявацца толькі на сябе.

— Пасля звальнення зразумеў, — расказвае Дзмітрый, — што дзяржава мне дапамагаць не збіраецца, і пайшоў у кааператыў, які, дарэчы, неўзабаве «прагарэў»...

— А чаму не на завод?

— Я не лайдак, але думку пра завод адкінуў адразу. Не хачу пакрыўдзіць рабочых, але, па-мойму, манатонная з дня ў дзень, з года ў год праца, калі адзіная радасць у жыцці — выпіўка пасля работы, — усё гэта атрафіруе чалавечую асобу... Гэта не жыццё, а існаванне. Ды і зарплата мізэрная, не апраўдвае ўкладзенай працы. Магчыма, людзі старэйшага пакалення думаюць па-іншаму, але для нас, маладых, — кумір не Паўка Карчагін, а той удачлівы хлопец, які ездзіць на «Вольва», мае асабняк і ўласны рахунак у Швейцарскім банку. Менавіта ён — герой нашага часу. Нам хочацца жыць не дзеля таго, каб добра працаваць, а працаваць дзеля таго, каб добра жыць.

— Але ж некаму працаваць трэба і ля станка...

— Калі ў нас, як практыкуецца на Захадзе, просты рабочы, купіўшы акцыі, зможа стаць саўладальнікам прадпрыемства, атрымліваць частку прыбытку, зможа дазволіць сабе пасядзець з жонкай пасля змены ў рэстаране і адправіцца летам у круіз, толькі тады моладзь пойдзе на заводы. А пакуль урад корміць нас абяцаннямі, я сказаў сабе: «Мы пойдзем іншым шляхам» і зразумеў потым, што не памыліўся.

— І якім шляхам пайшоў ты?

— Пачаў з таго, што наведаўся па аб'яве ў адну з фірм, дзе патрабаваліся пасрэднікі па куплі-продажы. Жадаючых, дарэчы, было шмат, але многія і пакідалі гэтую справу, таму што вельмі хутка зразумелі: камерцыя — не іх прызванне, а рабіць грошы «з нічога», аказваецца, не так ужо і лёгка. У мяне ж атрымалася. Пазней скончыў курсы менеджэраў-брокераў. Але канкурэнцыя цяпер вялікая: можна месяц працаваць і нічога не дабіцца, таму рынак вымушае вынаходзіць нешта новае, ахопліваць галіны, у якія яшчэ не паспелі пранікнуць іншыя. У мяне цяпер некаторыя планы ёсць, але для іх ажыццяўлення трэба мець трывалую фінансавую базу. Таму думаю адкрыць некалькі ларкоў па продажу рэчаў і сельгаспрадукцыі. Гэта, зразумела, не адзіны і не самы хуткі спосаб зарабіць грошы, затое найбольш надзейны. Ведаю: на камерцыйныя кіёскі глядзяць многія з непрыязнасцю, але, перафразуючы Маякоўскага, хачу сказаць: «Калі ларкі адчыняюцца, значыць гэта трэба рынку».

— Якія якасці, на твой погляд, неабходны бізнесмену?

— Настойлівасць, уменне ладзіць з людзьмі, цвяроза ацэньваць свае магчымасці і займацца тым, што па сілах. Інакш уся кар'ера можа скончыцца даўгавой турмой.

— Кім і дзе ты сябе бачыш гадоў праз дваццаць?

— Калі ўсё пойдзе добра, то — на ўласнай віле ў Фларыдзе за бакалам віскі з ільдом. Адсюль рана ці позна, сабраўшы грошай, хачу выехаць, хаця і гавораць, што сёння ў нашай краіне залатыя часы дзікага Захаду, калі кожны можа стаць мільянерам... Не веру я, што з нашай бессмяротнай бюракратыяй кожны зможа поўнасцю праявіць сябе. Амерыку мы ніколі не дагонім — у гэтым я перакананы.

— У тваім акружэнні ўсе такія катэгарычныя ў вывадах?

— Па-мойму, усе.

— Вось мы гаворым, як рабіць грошы. Прызнайся, для цябе работа — толькі спосаб разбагацець?

— Фрэйд гаварыў, што ўсімі чалавечымі ўчынкамі рухаюць толькі два фактары: жаданне стаць вялікім і сексуальная цяга. Мной, як і ўсімі прадпрымальнікамі, рухае першы фактар, гэтым і тлумачыцца наша жаданне «зрабіць» як мага больш грошай. А ўжо разбагацеўшы, можна ўкладваць грошы і ў дабрачыннасць. Думка пра тое, што зрабіў нешта добрае блізкаму — узвышае. Па-мойму, кожны сапраўдны прадпрымальнік праходзіць шлях ад асабістага абагачэння да дабрачыннасці...

У канцы размовы субяседнік паскардзіўся: маўляў, набыў аўтамабіль за 130 тысяч, і пасля гэтай пакупкі ў кішэні засталося толькі 10 тысяч. Сапраўды, з такімі грашыма сёння дваццацігадоваму беспрацоўнаму не пражыць... Цікава, на што будзе наракаць Дзіма праз дваццаць гадоў? Можа, тады прыйдзе час пагаварыць пра душу?

**Андрэй ЯЎМЕНАЎ,**
**БелаПАН.**

ПЫТАННЕ ПАРАДКУ ДНЯ: ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЗАМЕЖНЫМІ СУАЙЧЫННІКАМІ

# БЕЛАРУСКІЯ ГАЛАСЫ ПАРЫЖА

У палітычным жыцці рэспубліканскай грамадскасці пачатак красавіка прайшоў пад знакам водгукаў, каментарыяў, ацэнкі візіту Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ С. Шушкевіча ў Францыю, у выніку якога былі дасягнуты пагадненні аб развіцці шматбаковых сувязей, якія кладуць пачатак новаму перыяду ўзаемаадносін паміж гэтымі дзяржавамі. Свае цаглінкі ў падмурак будовы беларуска-французскага супрацоўніцтва, дзе важкая роля належыць французам беларускага паходжання, залажыла і Міжнародная асацыяцыя «Беларусь — Францыя». Напярэдадні прыезду высокай беларускай дэлегацыі ў Парыж там знаходзіліся прадстаўнікі асацыяцыі старшыня яе Рады народны дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі У. Новік і адказны сакратар Мікола Цмыг, які і адказаў на нашы пытанні.

— У 48-м нумары «Голасу Радзімы» ад 28 лістапада 1991 года быў змешчаны артыкул «Сарбона загаворыць па-беларуску?», у якім размова ішла аб устаноўчай канферэнцыі Белфранса і часткова аб беларусах з берагоў Сены. Якія крокі паспела здзейсніць ваша асацыяцыя, зусім яшчэ маладое ўтварэнне ў грамадска-палітычным руху Беларусі за гэтыя шэсць месяцаў? Чым была выклікана ваша паездка ў Францыю?

— Лаканічна кажучы, шмат часу пайшло на вырашэнне арганізацыйна-адміністрацыйных пытанняў, якіх безліч. Праз два месяцы пасля ўстаноўчай канферэнцыі мы здабылі рэгістрацыю, а значыць і статус юрыдычнай асобы. Сабралі сход Рады, на якім абмеркавалі ў першым прыбліжэнні нашы задумы. А з 28 лютага па 8 сакавіка, атрымаўшы запрашэнне, знаходзіліся ў Парыжы, былі гасцямі трох беларускіх арганізацый: нашага партнёра і кампаньёна асацыяцыі «Францыя — Беларусь», Саюза беларусаў Францыі «Хаўрус» і Беларускай каталіцкай місіі. Нашай задачай мы бачылі ўсталяванне кантактаў з беларусамі Францыі, з французскімі палітычнымі коламі, прадпрымальнікамі, заснаванне пастаяннага прадстаўніцтва асацыяцыі «Беларусь — Францыя» ў Парыжы.

— І якога плёну вы дасягнулі, чым можаце пахваліцца перад нашымі чытачамі?

— Не крывячы душою скажу, што тыдзень работы ў сталіцы Францыі быў вельмі насычаны: перамовы з фірмамі, банкамі, сустрэчы з журналістамі. Варта заўважыць, што гэтае наведванне мы здзейснілі за асабісты кошт і ў час уласнага адпачынку, нават на сваім транспарце...

Вялікім задавальненнем для нас з'явіўся той факт, што цяпер у Парыжы па вуліцы Cravillers, 65, ужо працуе сталае прадстаўніцтва асацыяцыі. Па прапанове нашых суайчыннікаў у Францыі часова яго штаб-кватэра размясцілася ў Беларускай каталіцкай місіі. 4 сакавіка быў падпісаны праект пагаднення, пратакол аб супрацоўніцтве паміж беларускімі арганізацыямі ў Францыі і Белфрансам.

Гаворка ідзе аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў, выданні кніг, падручнікаў, даведнікаў, рэкламна-інфармацыйных матэрыялаў. Плануецца развіццё дзелавога і культурнага турызму. Маем намер ладзіць абмены творчымі калектывамі, канцэрты, выставы і кірмашы ў Францыі. І гэта ўсё — не адно планы, нейкая далёкая і туманная перспектыва. Ужо летам ажыццяўляем прэзентацыю беларускай выставы ў Парыжы, ёсць дамоўленасць з французскімі ўладамі аб выдзяленні залы. Запросім тэлебачанне, радыё, газеты, каб паглядзелі французы на Беларусь як суверэнную дзяржаву, бо дагэтуль, шчыра кажучы, яна для іх — «белая пляма». Не чуваць у французскай сталіцы афіцыйнага беларускага слова, не відаць бел-чырвона-белага флага.

— На вялікі жаль, жыццё і дзейнасць нашых землякоў у Францыі з'яўляецца (цяпер ужо для нас) той жа «белай плямай». Ды і, наогул, амаль ва ўсёй Заходняй Еўропе... Калі даволі насычаны інфармацыйны паток на тэму «беларускія эмігранты» ідзе з-за акіяна са Злучаных Штатаў, дык у адносінах да, напрыклад, Германіі на гэты конт — маўчанне. Якое меркаванне, уражанне ад сустрэч з беларускай іміграцыяй у Францыі вы маеце?

— Беларуская дыяспара ў гэтай краіне мае сваю багатую і адметную гісторыю. Да вайны там існаваў Саюз беларускіх працаўнікоў. З 1931 года дзейнічае Саюз беларусаў Францыі «Храўрус», на той момант у ім бралі ўдзел некалькі соцень сяброў. Адразу па вайне з далучэннем да суполкі пасляваеннай хвалі эміграцыі тых, хто змушаны быў уцякаць ад Сталіна, яго дзейнасць атрымала яшчэ мацнейшы імпульс. А сёння сябрына налічвае больш дзесятка ўдзельнікаў... Але, як кажуць, не колькасцю, дык уменнем. Гэта сапраўдныя прыхільнікі беларускасці, адданыя носьбіты і захавальнікі роднага слова і культуры Бацькаўшчыны ў французскім асяроддзі. Тым не менш, «старая» эміграцыя адыходзіць... Да таго ж эмігрант-беларус і тут, як і ў іншых краінах, адпадаў альбо да больш саматых і актыўных расійскіх, украінскіх ці часткова польскіх згуртаванняў. Аднак нягледзячы ні на што, беларускасць жыве і мае сілы для развіцця, асабліва цяпер, калі Бацькаўшчына стала незалежнай. І займае беларуская дыяспара сваё пэўнае сацыяльнае і грамадскае месца ў жыцці дзяржавы. Для ілюстрацыі сказанага дадам, што Лявон Шыманец — эксперт Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў па аказанню тэхнічнай дапамогі СНД. А, як вядома, пасля дэталёвай экспертызы французскія фірмы, вельмі мажліва, будуць выканаўцамі такіх праектаў, як рэканструкцыя аўтамабільнай трасы Брэст — Мінск — Масква, чыгуначнага вузла ў Брэсце, перапрацоўка сельскагаспадарчай сыравіны і інш.

І яшчэ засталося ў мяне ўражанне (гэта ў дачыненні да таго, што вы згадалі пра маўчанне), што ёсць значная колькасць замежных суайчыннікаў, якія яшчэ не пазбавіліся страху перад былымі рэпрэсіямі, праследаваннямі. І тут шмат што ад нас залежыць, ад таго, як хутка і пераканаўча мы дакажам на справе, што дэмакратычныя працэсы на Радзіме носяць характар незабарачальны.

Мікола Цмыг пакінуў у рэдакцыі два дакументы. У першым лісце, які накіраваны ад імя «Хаўруса» Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу, сярод іншых ёсць такія радкі: «Беларуская эміграцыя ў Францыі ёсць вельмі шчаслівай, што... беларускі народ здабыў незалежнасць і што ягоны суверэнітэт прызнала міжнароднае супольніцтва, у ліку якога і Францыя. ...Беларусы і французы беларускага паходжання ў Францыі змаглі б у некаторай меры дапамагчы беларусам на Бацькаўшчыне, ствараючы бліжэйшыя сувязі з французскімі палітычнымі, эканамічнымі, культурнымі і гуманітарнымі дзейнікамі».

Адказ С. Шушкевіча падаём ніжэй цалкам.

Ёсць усе падставы спадзявацца, што агульнымі высілкамі беларускага народа і яго замежных супляменнікаў Радзіма зазваюе аўтарытэт і паважнае да сябе стаўленне сусветнай супольнасці і стане адказным, кампетэнтным і паўнамоцным суб'ектам міжнародных зносін.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**Шаноўныя суайчыннікі!**

**З вялікім задавальненнем атрымаў Ваша пасланне. Вельмі прыемна, што ў Рэспубліцы Беларусь, якая ў рэшце рэшт стала на шлях пабудовы незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, знаходзяцца шчырыя прыхільнікі і па-за яе межамі.**

**Я глыбока пераканаты, што Беларусь і Францыя ў самым хуткім часе ўстановяць цесныя кантакты ў розных сферах супрацоўніцтва і ўсе прыхільнікі развіцця гэтых кантактаў змогуць унесці пасільны ўклад ва ўмацаванне добрых адносін паміж нашымі краінамі. Я вітаю ўсіх нашых суайчыннікаў за мяжой, якія дбаюць пра лёс сваёй Бацькаўшчыны, і запрашаю да плённага супрацоўніцтва.**

**Зычу Саюзу беларусаў Францыі поспехаў у ягокай дзейнасці на карысць разьвіцця добрых узаемаадносін паміж Францыяй і Беларусьсю.**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

ПОГЛЯД КРАЯЗНАЎЦЫ

# ШТО Ў НАЗВЕ ВАШАЙ, СТОЎБЦЫ?

Адказаць на гэта пытанне надзвычай складана. Не адно пакаленне даследчыкаў гісторыі і культуры Наднёманскага краю ламала над ім галаву, а да адзінай якой-небудзь высновы яны так і не прыйшлі. Адсюль і ўзнікла шмат гіпотэз наконт наймення райцэнтра.

Адна з іх, якой прытрымліваўся вядомы беларускі географ В. Жучкевіч, сведчыць, што ў аснове назвы сучасных Стоўбцаў ляжыць слова «стоўб». Калісьці, гаворыць ён, стаўбамі адзначалі дарогу, якая не мела асобных арыенціраў праз пэўную мясцовасць. Асабліва вялікае значэнне гэтыя стаўбцы-арыенціры мелі ў зімовы час, калі дарогу замятала. Згодна з гэтым меркаваннем, у свой час каля Стоўбцаў пралягала якаясьці дарога, што, відаць, праходзіла па голай, бязлеснай мясцовасці, інакш навошта было яе памячаць стаўбамі?

Але такое тлумачэнне падаецца беспадстаўным. Таму што, па-першае, меркаванне гэта ў згаданай кнізе нічым не абгрунтавана, а, па-другое, калі параўноўваеш сённяшні прыродны ландшафт вакол горада з ранейшымі апісаннямі (Зеленский И. Минская губерния. Материалы для географии и статистики России), напрошваецца думка, што мясцовасць вакол Стоўбцаў наўрад ці была калі бязлеснай. Хутчэй, наадварот: вялізная пушча, рэшткамі якой з'яўляецца сёння Коласаўскі заказнік і лясны масіў у ваколіцах вёскі Кучкуны і пасёлка Коласава, распасціралася на вялікай адлегласці па абодва бакі ад Нёмана.

Больш праўдападобным з гэтай нагоды з'яўляецца адно з народных паданняў аб заснаванні Стоўбцаў, якое запісала ў 1951 годзе даследчык В. Навіцкая ад М. Галяновіч з вёскі Ператокі. «На тым месцы — казала Галяновіч, — дзе цяпер Стоўбцы, некалі быў лес. У гэтым лесе нейкі князь пабудаваў манастыр, і доўгі час там жылі манахі. Аднаго году яны ўсе вымерлі ад чумы. Манастыр разбурыўся. А на тым месцы закапалі тры стоўбікі ў знак таго, што нельга сяліцца. Але прайшоў час, і па загаду князя тут пачалі сяліцца людзі. Яны знайшлі закапаныя стоўбікі і назвалі гэта паселішча Стоўбцы».

Безумоўна, і гэты факт падаецца, так бы мовіць, галаслоўна, без якой-небудзь спасылкі на пэўныя крыніцы. Але абвяргаць яго, напэўна, не трэба. Бо, па-першае, гэта паданне мае пад сабой лагічную прывязку да той тэрыторыі, дзе сёння знаходзяцца Стоўбцы, і яшчэ раз пацвярджае, што спакон веку тут рос вялізны лес. А, па-другое, як вядома з фалькларыстыкі, любы па жанру твор гэтай навукі, да якой адносіцца і паданне, з'яўляецца вынікам калектыўнай творчасці і цалкам можа мець у сваёй аснове канкрэтныя падзеі. Таму гэта гіпотэза, якой таксама прытрымліваецца ў сваёй кнізе «На вытоках нёманскіх» краязнаўца У. Кісялёў, можа прэтэндаваць на сваё ўзаконьванне.

Менш верагоднасці праглядваецца, як нам здаецца, у другім паданні аб заснаванні Стоўбцаў. (Яно таксама было запісана В. Навіцкай ад М. Галяновіч і змешчана ў вышэйзгаданай кнізе). «На месцы сучасных Стоўбцаў некалі сыходзіліся граніцы ўладанняў трох князёў. У зямлю былі закапаны стоўбікі, якія называліся стаўбцамі. На гэтым месцы пасяліліся людзі і знайшлі стаўбы, закапаныя ў зямлю. Так і сталі зваць гэтае месца».

Чаму працытаванае паданне падаецца малаверагодным? Ды перш за ўсё таму, што ў ім адсутнічае гістарычная лагічнасць. Калі ў першым паданні, якое было запісана з вуснаў М. Галяновіч, цалкам можна дапусціць, што сярод лесу мог з'явіцца манастыр і маглі развівацца далейшыя падзеі, то ў другім — наўрад ці змаглі пасяліцца людзі на сутыку трох княжацкіх уладанняў, якія б яны ні былі — вольныя ці прыгонныя.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ПАСЛЯ «КРУГЛАГА СТАЛА» «БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ»

# МАЛАДАЯ СТАРАЖЫТНАЯ ДЗЯРЖАВА

У пачатку красавіка ў Мінску адбыліся пасяджэнні міжнароднага «круглага стала» «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім», праведзеныя надзвычай аўтарытэтнымі арганізацыямі і ўстановамі: Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Інстытутам гісторыі Акадэміі навук, Лонданскім і Люблінскім каталіцкім універсітэтамі, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Міністэрствам адукацыі Беларусі, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны і Польскай акадэміяй навук.

У рабочых пасяджэннях, акрамя беларускіх вучоных, прымалі ўдзел даследчыкі мінулага Беларусі з Польшчы, Англіі і Італіі. Правядзенне гэтага мерапрыемства было выклікана тым, што, на думку вучоных, найбольш важнай праблемай для нашага сённяшняга самасцвярджэння як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца пошукі гістарычных каранёў беларускай дзяржаўнасці, якія ўзыходзяць да Полацкага, Турава-Пінскага, Гродзенскага, Мінскага княстваў і асабліва да Вялікага княства Літоўскага. На працягу дзесяцігоддзяў мы адмаўлялі і свае карані, і багатыя традыцыі і тым самым выхавалі ў сабе комплекс гістарычнай непаўнацэннасці і пераканалі ў гэтым нават сваіх

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

# 1939: ГЭТА БЫЛО ВЫЗВАЛЕННЕ

ні з іншымі рэгіёнамі СССР (пасля Прыбалтыкі).

Я не спрабую закрываць вочы на тое, што будаўніцтва новага грамадства ў вялікай многанацыянальнай краіне на руінах царскай імперыі на пэўных этапах суправаджалася мноствам памылак. Спробы процістаяць сталінскаму дыктату каштавалі жыцця сотням тысяч нашай інтэлігенцыі і перадавым людзям.

Думаю, больш справядліва сёння было б гаварыць аб дасягненнях за паўстагоддзе і поўным развале за апошнія 3—4 гады.

Возьмем дзве даты. 1940 год — з моманту ўтварэння Беларусі ў сённяшніх межах і 1987 год, пасля якога пачаўся працэс палітычных і эканамічных рэфармацый, больш правільна, разбурэння.

За гэты перыяд вытворчасць электраэнергіі ўзрасла ў СССР у 3 разы, а ў Беларусі ў 7, сталі ў 8 разоў, у нас — у 210 разоў, пракату ў 10 разоў, у нас — у 170 разоў, мяса ў 4, у нас —4,5 раза, малака — у 3 разы, у нас — 3,6 раза, масла жывёльнага ў 6 разоў, у нас —9 разоў. Навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў павялічылася ў 4,5, у нас — у 5 разоў, спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй на 40 працэнтаў, у нас — на 45 працэнтаў, навуковых супрацоўнікаў у 15 разоў, у нас — у 20.

Аб якой акупацыі ідзе гаворка, калі Беларусь развівалася лепш і хутчэй, чым «акупант»?

Пры гэтым у разлік не бярэцца яшчэ тое, што развіццё рэспублікі пачалося з нуля пасля Айчыннай вайны.

Дазволю прывесці некалькі параўнаўчых даных: у 1986 годзе на тысячу жыхароў пабудавана ў ЗША 67 кватэр, ФРГ — 43, Польшчы — 51, Беларусі — 99 кватэр. Забяспечанасць бальнічнымі ложкамі на 10 тысяч жыхароў у ЗША —54,5, ФРГ — 108, Польшчы — 25,1, Беларусі — 42,7. Аналізуючы гэтыя даныя, робім вывад, што тыя гісторыкі, якія лічаць, што 1939 год— гэта была акупацыя Заходняй Беларусі, па крайняй меры робяць бестактоўна і несур'ёзна.

Іх захоплівае хваля нянавісці, і гэта перашкаджае ім цвяроза ацаніць становішча і гістарычныя факты.

Такія памылкі дапускаюць не толькі ў нас, але і за мяжой.

Неяк мне трапілася ў рукі польская газета, дзе з вялікай помпай адзначалася сямідзесятая гадавіна «Цуда на Вісле». Гутарка ішла аб прарыве палякамі ў 1919 годзе ўсходняга фронта і наступным адступленні войскаў Тухачэўскага. Рэакцыйны друк літаральна захлёбваўся ад захаплення, расхвальваючы небывалы гераізм войскаў Ю. Пілсудскага. Зразумела, Чырвоная Армія паказвалася ў самым непрывабным выглядзе. Тут жа пісалася, што ў 1939 годзе «Польшчу разадралі два драпежнікі —СССР і Гітлер», што СССР па сённяшні дзень акупуе ўсходнія тэрыторыі Польшчы.

Я разумею, ёсць узаемныя крыўды, але навошта скажаць гісторыю. Крыўдна, шчыра кажучы, вельмі крыўдна, што мы самі ствараем складаныя сітуацыі для сваіх людзей.

Польскія журналісты нідзе не ўпамянулі, чаму войскі Чырвонай Арміі аказаліся на Вісле. І калі гаварыць шчыра, то гэта самі палякі акупіравалі Заходнюю Беларусь у 1919 годзе. І гэта была цяжкая для нас, беларусаў, акупацыя. Беларускі народ пакутаваў неймаверна. Палякі ўсё рабілі для таго, каб выгнаць са спрадвеку беларускай зямлі беларусаў. За час акупацыі многія сяляне кідалі свае наседжаныя месцы і ехалі за мяжу.

Акупацыя палякамі Заходняй Беларусі не прайшла бясследна. Да сённяшняга дня па ўсім свеце раскіданы беларускія людзі.

Помню, калі мне давялося пасвіць жывёлу на маленькім балотцы, вельмі цяжка было ўтрымаць статак на невялікім кавалачку зямлі, і каровы часта забягалі на панскі сенакос, за што потым давodзілася адпрацоўваць у памешчыка за патраву сенакосу.

Праводзячы нацыяналістычную палітыку, польскі ўрад стараўся засяляць Заходнюю Беларусь асаднікамі. Яны атрымлівалі самыя лепшыя землі. Такіх асаднікаў вакол нашай вёскі было 6, і ў кожнага каля трох сотняў гектараў зямлі. А ў вёсцы было 60 двароў. У адной гаспадарцы мелася не больш 2 —2,5 гектара зямлі. У сем'ях налічвалася ад 4 да 6 душ. Сяляне працавалі ад цямна да цямна, аднак накарміць сям'ю было вельмі цяжка. Усе, хто мог, ішлі ў батракі да памешчыка, праца селяніна была зусім таннай. Хіба хто-небудзь з акупантаў даваў бясплатна сялянам зямлю?

Каб паказаць усяму свету, што ў Заходняй Беларусі пражывае больш палякаў, чым беларусаў, прымушалі беларусаў прымаць каталіцкую веру.

У перыяд акупацыі ў Заходняй Беларусі праводзіліся перапісы насельніцтва, і ўсякі раз у справаздачах паказвалі мінімальную колькасць пражываючых беларусаў, каб навукова даказаць, што землі заселены палякамі, а таму і належаць ім. Рабілася ўсё, каб беларуса не называць беларусам, адносілі іх да «тутэйшых» і «палешукоў», змяншалі колькасць за кошт каталіцкага веравызнання, таму што ўсякі, хто пісаўся католікам, аўтаматычна заносіўся ў графу «паляк».

Але праўда заставалася адна: на сваёй зямлі жылі і жывуць 85 працэнтаў беларусаў.

Таму з нецярпеннем чакаў беларускі народ сваіх вызваліцеляў. Шкада, што толкам скарыстаць свае правы за мінулы час мы так і не змаглі — і пасля Сталіна мы засталіся палігонам палітычнага эксперымента.

На жаль, за гэтыя паўстагоддзя, не было ўголас сказана ні аб велічы вызвалення, ні аб той трагедыі, што выпала на долю шчаслівага народа, які сустракаў сваіх вызваліцеляў.

Хіба можна было сабе ўявіць, што вызваленыя і вызваліцелі з'явіліся аднолькавымі ахвярамі злачынцы, які жыў у Крамлі, жорсткасць якога перавысіла ўсе злачынствы ў гісторыі чалавецтва. Хіба не парадаксальна, што камуністы Заходняй Беларусі, што з такім жаданнем рыхтавалі беларускі народ да вызвалення, пацярпелі ў рэпрэсіях больш за ўсіх. Дваццаць гадоў яны цярпелі пад прыгнётам польскіх улад, пераносілі ўсе нягоды, цяжкім быў іх крыж на акупіраванай тэрыторыі.

У той жа час у Савецкім Саюзе знаходзілася некалькі тысяч палітычных эмігрантаў, якія шукалі там ратунчу ад польскіх улад і якія па ўказанню Сталіна і яго прыслужнікаў былі рэпрэсіраваны.

Ішла жорсткая палітычная барацьба, і ў гэтай барацьбе народ Заходняй Беларусі быў паддоследным трусом.

Ю. Пілсудскі знішчыў усё, што можна было знішчыць у «палешуках» і «тутэйшых», Сталін практыкаваўся на эмігрантах з Польшчы. Не буду паглыбляцца ў гісторыю, калі сталінскія спецы ўстанаўлівалі ў нас сваю ўладу. Аднак скажу, што не трэба быць вучоным гісторыкам, каб разабрацца ў гэтым жыцці: усё мы пражылі самі, і гісторыю тварылі самі.

Можна сказаць смела, што Заходняя Беларусь была аб'ектам гульні двух вар'ятаў-палітыкаў — Сталіна і Пілсудскага, а мы, заходнікі, былі заложнікамі гэтай гульні.

Цень ад мінулых памылак у многім і па сёння лунае над нашай змучанай зямлёй, і пытанне аб савецкай акупацыі заходніх тэрыторый не знята з парадку дня ні ў палякаў, ні ў беларускіх гісторыкаў, а просты беларускі народ лічыць, што акупацыя была адна і яна працягвалася 20 гадоў, да 1939 года.

Не магу пагадзіцца з думкамі, выказанымі М. Івановым у яго артыкуле, што вайна была паміж Германіяй і сталінскім Савецкім Саюзам. Як быццам Гітлер акупіраваў Беларусь і знішчаў толькі сталіністаў. Як быццам у Францыі і Польшчы былі сталіністы, і Гітлер знішчаў толькі іх. Усім ясна, што Гітлер ваяваў супраць народаў СССР і знішчаў усіх — і сталіністаў, і несталіністаў.

Думаю, што амерыканцы таксама ўбачылі ў Гітлеры агрэсара, калі былі на баку Сталіна ў гэтай вайне.

Так, 1939 год застаўся ў памяці народнай светлымі ўспамінамі. Нават песні тых часоў выклікаюць на душы хваляванне і нагадваюць аб тых добрых восеньскіх днях.

Трэба пераадолець усю злосць, што накапілася за мінулыя гады, і адкрыта прызнаць: нават у часы культу Сталіна і разгулу берыеўшчыны для народа было зроблена вельмі многа, і беларускі народ сваёй працай памнажаў свае дасягненні.

Я не спрабую абапірацца на падказкі чужых галасоў, я стараюся апісаць усё тое, што я перажыў разам са сваімі бацькамі, якія не раз былі пакараны польскімі ўладамі і былі ў вялікім падазрэнні ў перыяд сталінізму. Так, было многа бедаў. Але ёсць людзі, жыццё якіх немагчыма аддзяліць ад біяграфіі краіны, яе цяжкасцей, перамог і здзяйсненняў. І мы будзем ганарыцца імі. Да такіх людзей я адношу тых, хто загінуў у сталінскіх лагерах.

Сёння, калі ў суседняй Польшчы ўсталёўваецца новая дэмакратыя, а ў нашай краіне ідуць вялікія працэсы ў грамадскай свядомасці, скажэнне гістарычных даных і догмаў мінулых гадоў толькі перашкаджае ўзаемаразуменню.

Думаю, што мы, заходнікі, павінны разумець, што калі б не было 1939 года — мы ніколі не былі б у адной рэспубліцы і за гэтыя паўстагоддзя беларусаў засталося б не больш, чым 10—15 працэнтаў.

Думаю, што вызваленне Заходняй Беларусі было вялікім гістарычным актам. Бо без яго ў нас не было б магчымасці сёння аб'явіць аб канчатковым суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

**А. ІЛЬЯШУК.**

---

блізкіх і далёкіх суседзяў.

На працягу тых жа дзесяцігоддзяў ствараўся міф, нібыта Вялікае княства было выключна літоўскай дзяржавай, хаця і па займаемай тэрыторыі, і па колькасці насельніцтва, і па войску этнічныя літоўцы складалі ў дзяржаве прыкладна 15 —20 працэнтаў. Міфам было сцвярджэнне аб тым, што нібыта літоўцы заваявалі беларускія і ўкраінскія землі і ўстанавілі тут не толькі сацыяльны, але і нацыянальны прымус. Міфам называецца сёння і супрацьлеглае сцвярджэнне, а іменна: Вялікае княства Літоўскае было дзяржавай выключна беларускай, паколькі і дзяржаўнай мовай у ёй была мова старабеларуская, і асновай эканамічнай і ваеннай моцы з'яўляліся землі беларускія.

Перад пачаткам работы «круглага стала» выказвалася думка, што ісціну трэба шукаць, мусіць, дзесьці пасярэдзіне. З вуснаў найлепшых спецыялістаў па даных пытаннях павінны былі прагучаць навукова-вывераныя адказы, праясніцца наступныя аспекты праблемы: ці з'яўлялася ВКЛ і беларускай дзяржавай? Ці адпавядала яго палітыка інтарэсам насельніцтва беларускіх зямель? Ці мае гістарычнае і юрыдычнае права Рэспубліка Беларусь лічыць сябе нашчадкам, пераемніцай Вялікага княства Літоўскага? Сёння мы настойліва гаворым аб неабходнасці свайго ўваходжання ў Еўропу, у еўрапейскую ці хаця б цэнтральнаеўрапейскую супольнасць народаў. Узнікае думка, што можа беларусы ўжо ўваходзілі ў Еўропу яшчэ ў часы княства і сёння мы толькі вяртаемся туды. Ці не Скарына ў свой час адкрыў для беларусаў не акно — дзверы насцеж у Еўропу? А можа Беларусі наканавана быць на памежжы дзвюх культур—праваслаўна-візантыйскай і каталіцка-раманскай, і ў гэтым яе трагедыя, але і яе слава і адметнасць?

Удзельнікі міжнароднага «круглага стала» — вядомыя беларускія, польскія, ангельскія і італьянскія гісторыкі і філолагі-славісты ў выніку двухдзённых дыскусій зрабілі наступныя падсумаванні: ва ўмовах барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай татара-мангольскага нашэсця ў першай палове XIII стагоддзя ўзнікла беларуска - літоўскае гаспадарства з цэнтрам у Навагародку, якое стала ядром магутнай еўрапейскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Дзяржава гэта ўяўляла сабой федэрацыю земляў, у якой вакол першапачатковага ядра (уласна Літва) аб'ядналіся абласныя аўтаноміі. Пасля уніі з Каронай Польскай у 1569 годзе Вялікае княства развівалася ў складзе Рэчы Паспалітай і было ліквідавана ў канцы XVIII стагоддзя ў выніку падзелу яго паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У Вялікім княстве на працягу яго існавання развіліся класічныя еўрапейскія інстытуты дзяржаўнай улады: заканадаўства, акумуляванае ў Статутах Вялікага княства, склалася своеасаблівая форма саслоўна-прадстаўнічай манархіі, шляхецкая дэмакратыя, усталяваліся талерантныя адносіны паміж рознымі цэрквамі і канфесіямі, сфарміравалася старабеларуская мова, якая мела статус дзяржаўнай, былі створаны значныя культурныя каштоўнасці, якія ўзбагацілі духоўную агульнаеўрапейскую і сусветную спадчыну. У Вялікім княстве ва ўмовах палітычнага і духоўнага ўзаемадзеяння адбывалася станаўленне самабытнай беларускай, літоўскай, украінскай і польскай культур. Усе народы, якія прымалі ўдзел у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага княства, а найперш, беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадкаемцамі гэтай дзяржавы. Таму ёсць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага — Беларуска-Літоўскае гаспадарства.

Выпрацоўка гэтых вывадаў далася ўдзельнікам «круглага стала», па іх словах, няпроста. Па кожным пункце, нават за кожнае слова даводзілася спрачацца і рабіць удакладненні. Беларускія вучоныя не былі аднадушнымі па ўсіх пытаннях. Наконт меркавання адносна ісціны, якую трэба шукаць «дзесьці пасярэдзіне», некаторыя вучоныя заўважаюць, што ў жыцці так адбываецца не заўсёды. Навука патрабуе канкрэтнасці і дакументальнага пацвярджэння тых або іншых палажэнняў. Шукаць ісціну лепш за ўсё ў архівах, а потым пісаць і выдаваць навуковыя працы.

Не ўсе вывады «круглага стала» знайшлі разуменне не толькі ў часткі беларускіх вучоных, але і ў грамадскасці, што стала відавочным на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў канцы другога рабочага дня. Яна была нетрадыцыйнай, калі журналісты задаюць пытанні і атрымліваюць адказы. Прэс-канферэнцыя амаль не сталася яшчэ адной дыскусіяй, на гэты раз паміж удзельнікамі «круглага стала» і журналістамі, а таксама прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі. Здаецца, так ніхто з прысутных і не зразумеў, чаму на «круглы стол» не былі запрошаны вучоныя з Расіі, Літвы, Украіны. Тлумачэнне, што мы павінны спачатку **самі** разабрацца, што ж уяўляла сабой Вялікае княства Літоўскае, а потым будзем разбірацца з Масквой, Літвой, Украінай, падалося мала пераканаўчым. Беларусы ж **не самі** разбіраліся, а з дапамогай сяброў з Польшчы, Лондана, Рыма.

Здзівіла і тое, што нашы госці і з Польшчы, і з Лондана звярталіся да залы па-польску, і словы іх не перакладаліся на беларускую мову. Наіўным было б спадзявацца, што ўсе, хто прыйшоў на прэс-канферэнцыю, так дасканала ведаюць польскую мову, што дакладна зразумелі кожнае слова, народжанае ў навуковых спрэчках.

Правядзенне «круглага стала» «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім» было мерапрыемствам патрэбным і карысным, пачаткам сур'ёзнай і складанай гаворкі, неабходнай сённяшняй суверэннай Беларусі для канчатковага высвятлення яе міжнароднага статуса, сцвярджэння яе дзяржавай-спадкаемцай Вялікага княства Літоўскага.

**Д. БАБАК.**

## З ПОПЕЛУ НЕБЫЦЦЯ

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

З ВОЛЬГАЙ АЛЯКСЕЕНКА (РАВЕНСКАЙ) пазнаёмілася дзякуючы шчасліваму выпадку. На вочы трапіла старонка «Чырвонай змены» з артыкулам пад загалоўкам «Прафесар Мікола Равенскі». Матэрыял гэты быў перадрукаваны з ужо ўспамянёнай газеты «Беларус». Карэспандэнт расказваў у ім аб сваёй сустрэчы з дачкой кампазітара ў Бельгіі, куды яна ў 1990 годзе, амаль праз 40 гадоў пасля смерці бацькі, прыязджала, каб пакланіцца яго магіле. І, бадай, столькі ж часу хавала яна ў глыбіні памяці тое нямногае, што помніла пра бацьку сама, ведала з расказаў маці, рэдка даставала з дальняй паліцы скупыя «рэчавыя доказы» яго існавання, тое, што дасталося ёй у спадчыну: некалькі музычных твораў, пласцінку, муштук ды гальштук. Мне часам здаецца, што Вольга Мікалаеўна так да канца і не ўсвядоміла свайго новага становішча, калі можна не хаваць уласнае прозвішча і радаслоўную, а ганарыцца імі. Дачка палітычнага эмігранта, «ворага народа»— колькі незаслужанай крыўды і няздзейсненых надзей хавалася за гэтымі словамі. Маючы музыкальныя здольнасці і прыгожы голас (сапрана), Вольга Мікалаеўна пасля паспяховага заканчэння музычнага вучылішча не змагла паступіць у кансерваторыю, думаю, што так і не рэалізавала ў поўнай меры свае прафесійныя магчымасці.

Яна нарадзілася перад самай вайной, а ў 1944 годзе бацька выехаў на Захад. Яе ўспаміны і ўспамінамі не назавеш, проста некалькі светлых дзіцячых уражанняў, аднак, дзякуючы Вользе Мікалаеўне, я сустрэлася з Анатолем Багатыровым, які добра ведаў Міколу Равенскага, з яе маці, жонкай кампазітара Янінай Станіславаўнай, пляменніцай Мікалая Якаўлевіча Нінай Рэвінскай. Непрадказальныя і на першы погляд дзіўныя пуцявіны прывялі да Людмілы Міхайлаўны Кашычкінай, мінскай падпольшчыцы і ўдзельніцы французскага Супраціўлення, якая ў вайну ў акупіраваным Мінску неаднойчы сустракалася з М. Равенскім. Людзі ўсе такія розныя, але аднолькава добра гавораць пра музыку.

— Золата, а не чалавек, сведчу як перад Богам, не кар'ерыст, не прайдзісвет, а такім заўжды цяжка,— зазначае Яніна Станіславаўна.

— Сціплы, сумленны, выдатны музыкант, знаўца беларускага фальклору, пісаў музыку ў беларускім нацыянальным стылі, — расказваў Анатоль Багатыроў.

— Інтэлігентны, мяккі чалавек, з высокім інтэлектам, выразна і прыгожа расказваў аб рэлігіі,— згадала Людміла Кашычкіна.

Мікола Равенскі нарадзіўся ў 1886 у вёсцы Капланцы Бярэзінскага раёна. Нядаўна даведалася, што капланскія школьнікі збіраюць матэрыялы пра свайго земляка, ствараюць пры школе музей кампазітара.

Пра дзяцінства і юнацтва звестак амаль не маю. Магу толькі здагадвацца, што народную музыку шанаваў з маленства, бо ёй прысвяціў усё жыццё, любіў слухаць, збіраў, запісваў і апрацоўваў народныя песні. Калі ў Карзюках (вёска пад Мінскам, дзе жыў брат Антон з сям'ёй) збіралася застолле, Мікалай Якаўлевіч прасіў вясковых кабет спяваць, з замілаваннем слухаў, а часам і вучыў. Вучыць спевам — гэта было прызванне, прафесія на ўсё жыццё.

Глыбокае вывучэнне вытокаў народнай песні, яе гісторыі і разнастайнасці далі кампазітару падставы высока ацаніць песенную творчасць беларусаў. У сваёй неапублікаванай працы «Характэрныя асаблівасці беларускай народнай песьні» ён пісаў: «Надзвычайныя здольнасьці беларускага народа наогул, а ў прыватнасьці да сьпеваў і музыкі настолькі вялікія ды багатыя творчасьцяй, што ўсё сваё жыцьцё ён праводзіць у абсалютнай неразлучнасьці з песьняй. З ёю ён нарадзіўся, вырас, жыў, працаваў, з ёю ён і ад жыцьця адыйшоў. Ні адно сьвята, ні адна ўрачыстасьць, ці то сямейнага ці агульнага характару, не абыходзіцца без песьні, і на ўсякі выпадак у жыцьці народ стварыў іх незлічоную веліч. Разнастайнасьць тэматыкі, формы, жанру, мастацкай якасьці, выяўленыя глыбіні душы, паэтычнасьці, глыбоказместнасьці і самабытнасьці песьні ставіць яе на адно з першых месцаў у міравой народна-творчай літаратуры».

Працяг. Пачатак у № 16.

Як сведчыць скупая біяграфічная даведка, М. Равенскі ў 1914 годзе закончыў трохгадовыя рэгенцкія курсы ў Маскве, у пачатку 1919 года пераехаў на працу ў Мінск, дзе ўжо ў наступным годзе стаў кіраўніком хору пры Беларускім рабочым клубе. Разам з М. Чуркіным удзельнічаў у вялікай фальклорнай экспедыцыі па Случчыне, арганізаванай Інбелкультам, працаваў хормайстрам у Мінскім гарадскім тэатры.

Хутка здольнага «сялянскага сына» пасылаюць ад рэспублікі вучыцца ў Маскву. Туды ў той час за вышэйшай адукацыяй пасылалі многіх дзяцей беднякоў. М. Равенскі закончыў спачатку музычны тэхнікум імя Стасава, а потым Маскоўскую кансерваторыю. Ён быў вучнем выдатнага рускага кампазітара Міхаіла Іпалітава-Іванава, які ў першай палове



Дачка кампазітара Лена **РАВЕНСКАЯ** з Ісаем **КАЗІНЦОМ.**
(Фота з архіва Л. Кашычкінай).

20-х гадоў узначальваў Беларускую песенную камісію, займаўся апрацоўкай беларускіх народных песень. Едучы на вучобу, малады кампазітар атрымаў у падарунак ад Беларусі унікальную скрыпку. Ён быў выдатным скрыпачом. З гэтым інструментам М. Равенскі ніколі не разлучаўся да самай смерці, але потым след яе згубіўся, і дачка кампазітара была б вельмі ўдзячная таму, хто мог бы падказаць месцазнаходжанне сямейнай рэліквіі.

Час, калі Мікола Равенскі, скончыўшы Маскоўскую кансерваторыю, вярнуўся ў Мінск, згадвае Анатоль Багатыроў:

— Ён вярнуўся і стаў педагогам. Спачатку ў музычным тэхнікуме, а потым у Беларускай кансерваторыі выкладаў гармонію і кампазіцыю, пісаў музыку— харавыя і сімфанічныя творы, фугі для фартэпіяна, апрацоўваў народныя песні. Але хутка Мікола Равенскі трапіў у нацдэмы — ён, Аладаў, яшчэ быў такі музыказнаўца Дрызін.

— А за што яны трапілі ў нацдэмы?

— А яны і самі не ведалі. Я думаю, за тое, што цікавіліся народнай музыкай і пісалі песні на словы пісьменнікаў-нацдэмаў.

Пачыналася страшная паласа для свядомай беларускай інтэлігенцыі. Многае ўжо расказана пра той час, на шчасце, штосьці ўдалося аднавіць і паставіць на адпаведны культурны п'едэстал, але немагчыма вярнуць загубленыя жыцці, таленты, страшна падумаць, колькі выдатных твораў мастацтва, музыкі, літаратуры не дайшло да народа і проста не магло быць створана, бо іх творцы згінулі навечна за калючым дротам ГУЛАГаў.

Першая «віна» Міколы Равенскага заключалася ў творчым супрацоўніцтве з так званымі пісьменнікамі-нацдэмамі, і ў першую чаргу ў яго дружбе з Уладзімірам Дубоўкам, на вершы якога кампазітарам напісаны музычныя творы, у прыватнасці цудоўная песня «О, Беларусь, мая шыпшына». М. Равенскім на лібрэта У. Дубоўкі напісана першая беларуская нацыянальная опера «Браніслава», якая амаль гатовай была знішчана. «Пасля таго, як ягоны лібрэтыст У. Дубоўка стаўся ссыльным, кампазітар многа гадоў жыў стэрарызаваны».

Тэрор стаў невыносным, калі ў 1938 годзе быў арыштаваны і праз некалькі месяцаў расстраляны брат Антон. На ўсім белым свеце іх было толькі двое, блізкіх па духу і па крыві людзей. Антон настаўнічаў у Карзюках. Ён меў сад і пчолы, і Мікола падоўгу жыў у брата, любіў бываць у садзе, дзе добра пісалася музыка. Родны брат — «вораг народа» — другая «віна» Міколы Равенскага. Тады цяжка было паверыць, што менш як праз дваццаць гадоў Антона рэабілітуюць, і ўжо ў наш час на пытанне дачкі, дзе шукаць магілу бацькі, Ніне Рэвінскай у адпаведных органах адкажуць: «Нясіце кветкі ў Курапаты».

А ў 1938 годзе ад Міколы Равенскага адварочваліся знаёмыя. І толькі Кузьма Чорны, сябра ўсёй гэтай сям'і, які і сам у хуткім часе пабываў у засценках НКУС (на шчасце, нядоўга), не пабаяўся і даў жонцы арыштаванага Антона, якую з шасцю дзецьмі выгналі з казённага жытла, грошы на пабудову дома.

Міколу Равенскага выключылі з Саюза кампазітараў, у кансерваторыі яму пакінулі толькі адзін прадмет — гармонію, яго меліся выселіць з кватэры, над яго галавой згушчаліся хмары, і, як сведчыць Анатоль Багатыроў, прозвішча Равенскага было сярод прозвішчаў тых людзей, каго абавязкова арыштавалі б, каб не пачалася вайна.

І ТЫМ НЕ МЕНШ, няма ніякіх падстаў меркаваць, што Мікода Равенскі ўспрыняў вайну як збавенне. Як і на мільёны людзей, яна абрынулася на яго, быццам абвал, і прымусіла выбіраць свой шлях.

Жыццё Міколы Равенскага ніколі не было простым, вайна абяздоліла яго канчаткова: адабрала дзяцей, разлучыла з Радзімай, у адзіноце і цяжкай хваробе скончыў ён свае дні на чужыне. У 1944 годзе Мікола Равенскі разам з адступаючым ворагам выехаў за мяжу. І гэта яго трэцяя, самая вялікая «віна» перад Радзімай, але ў мяне не паднімецца рука сказаць пра гэтага чалавека благое слова, назваць яго здраднікам. Ён паехаў на Захад, бо то быў адзіны спосаб застацца жывым. У акупіраванай Беларусі Мікола Равенскі служыў не немцам, а Богу. Пакінуўшы Мінск, ён з'ехаў у Чэрвень, бліжэй да сваіх родных мясцін, дзе ў царкве быў псаломшчыкам, выконваў іншыя абавязкі, а самае галоўнае — стаў рэгентам царкоўнага хору. Ён ведаў і любіў царкоўную музыку, ім самім напісана многа цудоўных твораў, якія гучалі і гучаць у храмах. М. Равенскі быў з дзяцінства і да скону веруючым чалавекам, і вера ў міласць Усявышняга дапамагала яму выстаяць у найцяжэйшых жыццёвых варунках. На маё пытанне, у чым выяўлялася рэлігійнасць яе мужа, Яніна Станіславаўна адказала:

— У паводзінах. У добразычлівасці, прыхільнасці да людзей, у сціпласці, ва ўменні цярпець, разумець і дараваць.

Савецкая ўлада, на жаль, не ўмела дараваць, не даравала б яна «святасці» і нежадання ісці ў агульным рэчышчы і Міколу Равенскаму.

Трагічна абарвалася ў час вайны жыццё старэйшай дачкі кампазітара Лёлі Равенскай. Яе падпольная клічка «Сініца», яна была блізкім сябрам і сувязной Ісая Казінца, які з першых дзён акупацыі Мінска стварыў падпольную групу, быў сакратаром Мінскага гарадскога падпольнага камітэта КПБ. Таго самага І. Казінца, Героя Савецкаа Саюза, імем якога названа адна з вуліц нашага горада, на ёй жыве Лёлін сын, прыёмны сын Казінца, марскі афіцэр Барыс Камінскі, унук апальнага беларускага кампазітара Міколы Равенскага.

Блізкай сяброўкай Лёлі Равенскай у час вайны была Людміла Міхайлаўна Кашычкіна, з якой яны разам неаднойчы хадзілі на заданні, падвяргаліся рызыцы і ўсё ж ганарыліся, што змагаюцца. Людміла Міхайлаўна сталася сведкай і непасрэднай удзельніцай трагічнай сцэны, калі Казінец і Лёля трапілі ў рукі гестапа. Усе трое ішлі на явачную кватэру на Кааператыўным завулку, не ведаючы, што іх там чакае засада. Першым адчыніў дзверы Казінец, у вочы ўдарыла святло, і нечыя рукі ўцягнулі яго ў хату, схапілі і Лёлю, Людміла Міхайлаўна ішла апошняй, і гэта дало ёй магчымасць непрыкметна адступіць і на той раз выратавацца.

Пасля катаванняў Казінца павесілі ў скверы каля тэатра Янкі Купалы, а Лёлю расстралялі ў двары мінскай турмы.

— Я вельмі балюча перажыла гэту страту,— і цяпер цяжка ўздыхае Людміла Міхайлаўна.— Я любіла Лёлю. Яна была прыгожай жанчынай, абаяльным, сціплым і таленавітым чалавекам. Яна пісала вершы, і, здаецца, на некаторыя бацька напісаў музыку.

Праз Лёлю Людміла Міхайлаўна і пазнаёмілася з Міколам Равенскім. Ён прыходзіў да дачкі на вуліцу Берсана, 12. Запомнілася, што неяк проста і пераканаўча, прыгожа гаварыў аб рэлігіі. Да месца, бывала, прагаворваў малітву, асобныя кавалкі спяваў.

— У той час мы мала думалі і ведалі пра Бога, ні ў што такое не верылі, але як, расказваў Мікалай Якаўлевіч, падабалася, адчувалася ў яго словах пераканаўчасць.

Мікола Равенскі не ведаў, а можа ўсё ж здагадваўся, што дачка ўвесь час падвяргаецца небяспецы, але не ўмешваўся і не перашкаджаў. Ва ўсякім разе тое, што з ёю потым здарылася, яму было вядома. У адным з пісьмаў сваячкі М. Равенскага, якая жыла ў Вялікабрытаніі, ёсць радкі пра тое, як дзядзька ёй расказваў, што яго дачку Лену забілі немцы.

Лена, або Лёля, як звалі яе сябры, была дачкой Міколы Равенскага ад першага шлюбу. Яе маці, нарадзіўшы дзвюх дачок (адна з іх памерла адразу), загінула сама ад родавай гарачкі. Яніна Станіславаўна была вучаніцай Міколы Равенскага і стала яго другой жонкай незадоўга перад вайной. Ад гэтага шлюбу нарадзілася таксама двое дзяцей. Жывой засталася толькі Вольга Мікалаеўна. Люда памерла, захварэўшы на менінгіт, але бацька пра гэта не ведаў. У вайну дзяўчынкі жылі пры ім у Чэрвені. Жонка ехаць з ім за мяжу адмовілася, не дала і дачок. «Бацька ніколі не мог без слёз гаварыць пра сваіх маленькіх дачушак, і цяжка было даведацца што-небудзь пра вас ад яго. Так і памёр са сваімі думкамі»,— гэта таксама радкі з пісьма Т. Руткоўскай з Вялікабрытаніі да Вольгі Мікалаеўны.



Барыс **КАМІНСКІ** (паваеннае фота), сын Лены **РАВЕНСКАЙ.**

Некалькі слоў пра Яніну Станіславаўну, бо яе жыццё якраз і ёсць красамоўнае сведчанне таго, што рабілася ў нас з людзьмі, якія мелі «віну» перад уладай. Не паехаўшы з мужам, яна засталася жывой, але жыццё па-сапраўднаму таленавітай маладой спявачкі, перад якой напярэдадні вайны ўжо бліснулі першыя промні будучай славы, было зламана і бязлітасна растаптана. Скончыўшы музычнае вучылішча і першы курс кансерваторыі, яна рыхтавала партыю Тацццяны ў оперы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін». Пасля вайны замест опернай сцэны былі брудныя цэхі гарбарнага завода, амаль штовячэрнія на працягу некалькіх гадоў «субяседаванні ў казённым доме».

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ*

# КРЫТЫКА БЕЗ ПАДСТАЎ

Супраць лому няма прыёму — прымаўка савецкага часу, якая вызначала характар адносін не толькі па ўсёй вертыкалі — зверху ўніз—іерархічнай лесвіцы таталітарнай сістэмы, але і па гарызантальных паверхах, паміж людзьмі. І як жа часта ў такі інструмент ператваралася пяро крытыка, рэцэнзента, якое прыпячатвала адступніка ад агульнапрынятых, афіцыйна асвечаных ідэйных установак знішчальным ярлыком — абвінавачваннем.

Часы тыя мінулі, грамадства, людзі з палёгкай прынялі плюралізм думак і меркаванняў, права кожнага на свае погляды, перакананні.

Але інерцыя ярлыкова-абвінаваўчай крытыкі, відаць, сапраўды моцная, калі дае сябе знаць нават у тых, хто сам нямала ад яе пацярпеў.

З задавальненнем чытаў натхнёную, высокапрафесійную рэцэнзію-роздум М. Віжа «Ціхае вяртанне» («Голас Радзімы», 16 красавіка) на кнігу У. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», што пасля больш як паўвекавой забароны выйшла пятым выданнем. І з горыччу прачытаў апошнія абзацы, прысвечаныя кніжцы «Усевалад Ігнатоўскі і яго час», напісанай мной і І. Ігнаценкам.

Не крытычнасць ацэнак, што закранае аўтарскае самалюбства, цяжарам лягла на душу, а іх прадузятасць, зададзенасць, абвінаваўчы характар. Прымаю любую заўвагу, з любых ідэалагічных пазіцый выказаную, акрамя як у спробе «абяліць і партыю, і сталінізм, спісаўшы безліч бязвінных ахвяр, у тым ліку і загублены лёс У. Ігнатоўскага, толькі на Сталіна і бліжэйшых яго памагатых». І далей М. Віж працягвае: «Няўмольным жа катам была сама сістэма, заснаваная на антычалавечнай ідэалогіі бальшавізма». У кнізе ж якраз зроблена спроба ў кантэксце жыцця і дзейнасці У. Ігнатоўскага разабрацца, як узнікала, як ствbooралася таталітарная сістэма. Нават калі б аб гэтым не гаварылася непасрэдна і неаднаразова ў аўтарскіх вывадах, то прыведзеныя ў кнізе дакументы, матэрыялы падстаў для іншага разумення ходу падзей, здавалася, не пакідалі. І вось — на табе: глыбокі навуковец М. Віж, якога не ведаю асабіста, але паважаю за яго працы, збіўся на палітычныя абвінавачванні, логіка якіх, можа, непрыкметна для яго самога, прадыктавала і тэрміналогію, так падобную на тую, са змрочных 30-х — «спроба абяліць». Тут — партыю і сталінізм, там — нацыянал-дэмакратызм (у адрас тых жа У. Ігнатоўскага, З. Жылуновіча, іншых). Там — цэнзура, арышт кніг, тут пакуль што пажаданне, калі і рэкамендаваць нашу кніжку для выпуску масавым тыражом у рэспубліцы, то толькі з важкімі агаворкамі.

Парадаксальна, але зусім яшчэ нядаўна мы з І. Ігнаценкам за першыя публікацыі аб У. Ігнатоўскім падвергліся крытыцы з боку прафесара А. Залескага за спробу абяліць гэтага «ідэёлага нацыяналізму». І вось — з другога боку.

Спрашчэннем, на мой погляд, з'яўляецца і вывад М. Віжа аб галоўнай прычыне трагедыі У. Ігнатоўскага: паверыў бальшавікам. Не хлопчык, а вопытны палітычны дзеяч, аналітык-гісторык рабіў выбар.

Ён быў асобай неардынарнай ва ўсіх сваіх іпастасях і перапляценнях жыццёвага шляху, ён паўстае дзеячам вялікага маштабу ў навейшай гісторыі Беларусі. І ні ў апраўданнях, ні ў ружовых фарбах патрэбы не мае. У рэшце рэшт магчымасць разабрацца ў чытача ёсць: прачытаць не толькі рэцэнзію, але і саму кніжку.

Аб У. Ігнатоўскім будзе напісана яшчэ шмат. І з'явяцца новыя факты, новыя меркаванні, будуць спрэчкі. Устрымаемся толькі ад нецярплівасці, ярлыковай крытыкі, узаемных знішчальных абвінавачванняў. Хай пяро застаецца пяром.

**Аляксей КАРОЛЬ.**

# ГАСЦЁЎНЯ АДЧЫНІЛА ДЗВЕРЫ



Вядома, што многае ў культурным жыцці сённяшняй, пасткамуністычнай Беларусі рухаецца ў асноўным дзеяннямі руплiўцаў. Менавіта такім руплiўцам у Фрунзенскім (альбо як яго яшчэ называюць — Кальварыйскім) раёне Мінска зарэкамендаваў сябе мастак Анатоль Налiваеў. І пайшло гэта з часоў, калі яго высілкамі была арганізавана ў раёне гасцёўня імя У. Галубка. Менавіта яна пасля пераезду ў Траецкае прадмесце стала філіялам стварaемага зараз Музея тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

Але не такі Анатоль Аляксандравіч чалавек, каб сядзець склаўшы рукі. Ён добра разумеў, што адна гасцёўня Галубка напэўна ж не зробіць пагоды ў культурным жыцці горада. Таму і ўзяўся за стварэнне яшчэ адной. І вось доўгачаканае свята. Усяго год таму аўтар гэтых радкоў не мог сабе ўявіць, што на адкрыцці культурнага асяродка давядзецца пачуць «У імя айца, і сына, і святога духа», «Малітву за беларускі народ» на роднай мове і беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа» на верш эміграцыйнай паэткі Н. Арсеньевай. Менавіта гэтымі пранікнёнымі радкамі і пачалася прэзентацыя гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Асвяціць гасцёўню, памаліцца на пачатку добрай справы, заклікаць усіх беларусаў да яднання праз малітву было даручана праваслаўнаму святару айцу Ігару. Гэта надало святу асаблівую ўрачыстасць і ўзнёсласць. А тое, што гэта было сапраўднае свята, падкрэсліў склад гасцей, якія прыйшлі на адкрыццё гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча: прысутнічаў вядомы беларускі паэт, вязень нямецкіх, польскіх і сталінскіх лагераў Сяргей Новік-Пяюн, паэт, даследчык беларуска-латышскіх культурных сувязей Сяргей Панізнік, прадстаўнікі ўлад, народныя дэпутаты.

Заўважна было, што працы па добраўпарадкаванню новай гасцёўні, якая размясцілася па вуліцы П. Глебкі, дом 90, кватэра 1, яшчэ шмат: абсталяванне пакояў, афармленне экспазіцыі, якая б распавядала пра культурнае жыццё Мінска ў мінулым, пра жыццё і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Тым не менш нават у такіх умовах госці адчувалі сябе амаль як дома.

Першае слова было прадастаўлена А. Налiваеву як гаспадару гасцёўні. Ён падкрэсліў, што ў раёне знайшліся людзі, якія зрабілі ўсё, каб з'явілася гасцёўня, дзе б маглі збірацца разам усе зацікаўленыя ў адраджэнні беларускай культуры людзі — творчая інтэлігенцыя, таленавітыя выканаўцы, працоўныя і школьнікі. Ну а паколькі традыцыі тэатральна-музычнага мастацтва адрадзіліся дзякуючы слову і таленту В. Дуніна-Марцінкевіча, то і вырашылі даць гасцёўні яго імя.

Вельмі хвалюючым было прывітальнае слова да прысутных С. Новіка-Пяюна, які адзначыў: «Нягледзячы на тое, што выпала на маю долю, ніколі не падаў духам, верыў у лепшае. Таму нават зараз у мяне няма нянавісці, няма прагі помсты. Пачынаючы такую справу, верце, што ўсё будзе добра».

І як працяг размовы ў выкананні А. Налiваева прагучаў твор С. Новіка-Пяюна «Калі б я мог», запіс яго «Зорачак» у выкананні нашага суайчынніка з Амерыкі Богдана Андрусышына — Данчыка. Гэта быў пачатак культурнай праграмы прэзентацыі гасцёўні. А яна была падрыхтавана і ажыццёўлена студыяй вакальнага майстэрства, якая пачынае сваю работу пры гасцёўні.

Прысутныя з задавальненнем паслухалі песні і рамансы ў выкананні заслужанага артыста Беларусі В. Прышчапёнка, артыстаў А. Лук'янюка, Т. Рэмез, Ю. Фёдарава.

На заканчэнне вечарыны С. Новік-Пяюн падараваў гасцёўні аўтограф сваёй неўміручай песні «Зорачкі», якой у гэты дзень споўнілася 63 гады. Менавіта 28 сакавіка 1929 года ў польскай ссылцы яна была напісана, а потым перакладзена на ўкраінскую, расейскую, таджыкскую, польскую мовы і эсперанта.

...Першыя крокі гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча зроблены. Наперадзе новыя сустрэчы, канцэрты і імпрэзы. Будзем спадзявацца, што яны з часам адродзяць традыцыю гарадской салоннай культуры.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**





**НА ЗДЫМКАХ: С. НОВІК-ПЯЮН** сярод гасцей; гаспадар гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча **А. НАЛІВАЕЎ**; выступае вакальны дуэт **В. ПРЫШЧАПЁНАК, А. ЛУК'ЯНЮК**, акампаніятар **А. КАРПЕНКА**.

Фота **Д. ЧАХОВІЧА**.

## *МОВА АБ'ЯДНОЎВАЕ ВЕРНІКАЎ*

Кожны аўторак, увечары, бібліятэка імя Пушкіна ў Мінску гасцінна расчыняе дзверы адной са сваіх залаў перад вернікамі розных хрысціянскіх канфесій. Тут яны разам займаюцца вывучэннем і тлумачэннем Евангелля, дыскутуюць, слухаюць лекцыі, развучваюць гімны, спраўляюць набажэнства. І ўсё — на беларускай мове. Сярод наведвальнікаў пераважаюць пратэстанты, але прыходзяць і праваслаўныя, і каталікі, і уніяты. Можна сустрэць тут навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, настаўнікаў вайскоўцаў.

— На ўсіх хрысціян, — кажа адзін з ініцыятараў стварэня клуба вернікаў пратэстанцкі святар Эрык Сабіла, — адно Святое Пісанне. І Бог — адзін. Чаму ж павінны размяжоўваць нас штучна створаныя моўныя бар'еры? У праваслаўнай царкве гучыць пераважна руская мова, у каталіцкім касцёле — польская. І пратэстанцкія абшчыны ў большасці сваёй трымаюцца рускай мовы. Гэта не можа не адбівацца адмоўна на працэсе згуртавання нацыі, на адраджэнні нашай нацыянальнай культуры. Вось мы і паставілі перад сабой мэту — спрыяць пашырэнню ўжытку роднай мовы ва ўсіх хрысціянскіх цэрквах на Беларусі...

Мэта — высакародная. Трэба спадзявацца, што колькасць прыхільнікаў беларускай мовы сярод вернікаў-хрысціян і святароў будзе няўхільна расці.

## *ЗАВЕРШАНЫ КОНКУРС*

Завершана праца над стварэннем помніка Максіму Багдановічу. Аўтар скульптуры — Сяргей Вакар, менавіта яго праект атрымаў перамогу на конкурсе, які праводзіўся па ініцыятыве клуба «Спадчына».

Помнік будзе ўстаноўлены ў Яраслаўлі, дзе будучы паэт закончыў гімназію і затым вучыўся ў ліцэі.

## *ЧЫТАННІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ГАРЭЦКАМУ*

У Горках адбыліся першыя чытанні, прысвечаныя вядомаму беларускаму пісьменніку, крытыку, вучонаму Максіму Гарэцкаму, які нарадзіўся ў Мсціслаўскім раёне. але 8 гадоў з пражытых 46 былі ў яго звязаны з Горкамі.

У чытаннях прынялі ўдзел пляменнік М. Гарэцкага Р. Гарэцкі, вядомы крытык М. Мушынскі, які доўгі час займаецца вывучэннем творчасці пісьменніка. выкладчыкі беларускіх ВНУ, супрацоўнікі Гісторыка-этнаграфічнага музея. Тэзісы дакладаў былі выдадзены асобнай кніжкай.

На чытаннях прагучала прапанова стварыць навукова-асветніцкае таварыства імя М. Гарэцкага, мэтай якога было б аб'яднанне ўсіх зацікаўленых людзей, навукоўцаў, што працуюць са спадчынай пісьменніка, які ў 30-я гады стаў ахвярай культу асобы Сталіна. Усе, каго зацікавіла гэта ідэя, могуць звяртацца ў Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей (Магілёўская вобласць, г. Горкі, завулак Якубоўскага, 2, тэлефон 2-34-87), якому на першапачатковым этапе даручана займацца арганізацыйнымі пытаннямі.

# ІІ. ВЯСНУ ПАГУКАЛІ








Сляды аграрна-магічнай функцыі хлеба захаваліся і ў печыве, якое рабілі ў выглядзе птушак (жаўрукоў, буслоў). З хлебам звязаны і звычай закопваць у зямлю гаршчок-кашы — своеасаблівая ахвяра зямлі. Сярод іншых дзеянняў абрадавага характару — гушканне на арэлях, звычай «заскокванне», «затанцоўвання» вясны (на Салігоршчыне), абход двароў. Паступова абрад Гукання вясныператварыўся ў прыгожае свята, забаву моладзі і ў такім выглядзе дайшоў да нашых дзён.

У сучасным нашым маларадасным палітызаваным жыцці свята Гукання вясны, якое прайшло сёлета ў многіх гарадах, мястэчках, вёсках, а таксама і ў сталіцы,— дало магчымасць многім адпачыць душой, павесяліцца, набрацца аптымізму. У свяце, арганізаваным Беларускім фондам культуры, якое адбылося 12 красавіка ў Цэнтральным дзіцячым парку Мінска, прынялі ўдзел музыкі і мастакі, спевакі і артысты. Нягледзячы на хладнаватае надвор'е, у парку сабралася шмат людзей, якія прыйшлі паўдзельнічаць у Гуканні вясны, аддаць даніну павагі бацькоўскім традыцыям.

НА ЗДЫМКАХ: свята Гукання вясны ў Мінску.

Фота В. СТАВЕРА.

## СПОРТ

### МАДОННЫ Ў БУТСАХ

Перад першынством Рэспублікі Беларусь па футболу сярод жаночых каманд гродзенскі «Рытм» запрасіў да сябе некалькі каманд былога Саюза. Спаборніцтвы прысвячаліся памяці П. Дзеншчыкова — у мінулым ён займаў пасаду старшыні калгаса «Авангард», Герой Сацыялістычнай Працы.

Галоўны прыз дастаўся «Рытму». Беларускія футбалісткі ў рашаючай гульні з лікам 6:5 (па пенальці) выйгралі ў краснаярскай «Сібіры».

### ЗА АДЗІНУЮ ПУЦЁЎКУ

У Мінску блізіцца да завяршэння адборачны турнір да маючага адбыцца чэмпіянату свету па міжнародных шашках. Лідэрства ўпэўнена захапілі міжнародныя гросмайстры А. Балякін, М. Кац, А. Гантварг з Рэспублікі Беларусь, а таксама санктпецярбуржац М. Каранеўскі.

Пакуль наперадзе А. Балякін. Ён на два ачкі апярэджвае бліжэйшых сапернікаў і мае рэальныя шанцы заваяваць адзіную пуцёўку на першынство свету.

### ПЕРАМАГЛІ МІНЧАНЕ

Шэсць клубаў прынялі ўдзел у міжнародным турніры па хакею на траве сярод мужчынскіх каманд, якія прайшоў у Брэсце.

У фінале сустрэліся мясцовыя спартсмены «Будаўніка» і мінскай каманды ХК. З лікам 2:1 перамаглі хакеісты беларускай сталіцы. Трэцяе месца ў «Грунвальда» з польскага горада Познань.

# ШТО Ў ВАШАЙ НАЗВЕ, СТОЎБЦЫ?

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

У свой час шмат якія перыядычныя выданні абляцела публікацыя «Горад на газетнай паласе», аўтарам якой з'яўляецца літаратуразнаўца Г. Блюмін. Ён на аснове сваіх даследаванняў сцвярджае, што назва райцэнтра цесна звязана з гісторыяй айчыннай журналістыкі. Што нібыта ў XVII стагоддзі ў Стоўбцах быў, па сучасных мерках, адзін з карэспандэнцкіх пунктаў рукапіснай газеты «Куранты, или Вестовые письма», якая выходзіла-пісалася ў Маскве. У Стоўбцах жа, на граніцы Расіі, пісаліся карэспандэнцыі на доўгіх і вузкіх лістах паперы — «столбцах», якія затым неадкладна дасылаліся ў Маскву. Адсюль, маўляў, і назва горада. Яшчэ даследчык прыводзіць такі факт (праўда, без спасылкі на крыніцу), што «захавалася, напрыклад, пісьмо цара Аляксея Міхайлавіча (бацькі Пятра I), датаванае 1660 годам, у якім ён указвае «со всем тщанием прилежать в отсылке оных столбцов на Москву незамедлительно». Пісьмо адрасавана душнаму дзяку Пасольскага прыказа Аўтаному Іванову ў мястэчка Стоўбцы, што ў «верховьях Немана обретаетца».

Цяжка, безумоўна, што-небудзь сцвярджаць, не трымаўшы згаданых дакументаў у руках. І ўсё ж увогуле не абвяргаючы прыведзеных Г. Блюміным фактаў, паглыбімся ў гісторыю. Па-першае, насцярожвае нэведанне аўтарам падзей, якія разгортваліся на нашай зямлі — Стоўбцы ў XVII стагоддзі аніяк не маглі знаходзіцца на мяжы Расіі, у той час горад альбо мястэчка знаходзілася на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. І толькі ў 1793 годзе, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, увайшло ў састаў Расіі. Па-другое, назва «Стоўбцы» зафіксавана ў першых крыніцах значна раней, у пачатку XVI стагоддзя. С. Александровіч у сваёй працы «Кнігі і людзі» ў пераліку навучэнцаў - беларусаў Кракаўскага універсітэта згадвае, што ў 1511 годзе вучыўся там школяр з вёскі Ліпа з-пад Стоўбцаў. Так што факты, як бачна, сведчаць зусім аб іншым і больш схіляюць да падтрымкі гіпотэзы, заснаванай на народным паданні.

Што датычыцца «дня нараджэння» райцэнтра, то, відаць, усё ж трэба лічыць за аснову год першага яго ўпамінання ў летапісных крыніцах — 1511-ты.

Сяргей ГАЛОЎКА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» Індэкс 63854. Зак. № 760.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12